*Свабода, роўнасць, братэрства!*



# Беларускі Усход

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!
**НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ГАЗЕТА**

● **Заснавана ў 1991 годзе** ● **№ 1 (55)** **Субота, 22 сакавіка 1997 г.** **Кошт 2000 рублёў** ●

## БОЛЬШЫ БРАТ. А ЦІ ЁН СТАРЭЙШЫ?

Амаль усе людзі лічаць Рускі Народ старэйшым братам Беларускага і Украінскага Народаў. На самай жа справе гэта не зусім так. Дакладней —зусім не так.

Успамінаю ліпень 1941 года. Амаль штодзень праз нашу вёску з захаду на ўсход вераніцай рухаюцца бежанцы. Адны просяць старшыню калгаса выдзеліць падводу, каб падвезці далей хоць на 15-20 вёрст свой небагаты, але цяжкі для стомленых людзей, скарб, другія моўчкі цягнуць сваё дабро тачкамі, іншыя проста ідуць з невялікімі клункамі ў руках ці за плячыма.

Аднойчы астанавілася у нашай вёсцы адпачыць гадзінку-другую жанчына з двума сынамі. Дзянёк быў цёплы, сонечны і яны не зайшлі ні да каго ў хату, проста прыселі на пярэклеці ля аднаго дома. Спагадлівыя вясковыя жанчыны вынеслі бежанцам паесці —хто шматок сала, хто хлеба, хто малака. Далі і ў дарогу. Жанчына расказвала, што ідзе ажно з-пад Брэста ў горад Жыздру, дзе жывуць яе бацькі. А муж ваюе недзе. Ён камандзір Чырвонай Арміі. Іх разам з многімі на машыне адправіў у эвакуацыю, а сам застаўся з салдатамі адбіваць фашыстаў. Пад Бабруйскам, ехаўшыя трапілі пад бамбёжку. Машыну разнесла ўшчэнт.

Мала чаго знайшлі потым пасажыры са сваёй паклажы. Слава Богу, хоць з адзення што-кольвечы ўцалела.

Расказваючы пра сваіх дзяцей, жанчына казала, паказваючы на хлопцаў:

— Гэта вось большы, яму ўжо чатырнаццаць гадкоў, а гэта меншы —яму толькі дванаццаць з паловай...

Мы, вясковыя хлапчукі, пры гэтым паразувалі вочы і здзіўлена пераглядваліся паміж сабой. Нам было па 8-10 гадоў. І той "меншы" здаваўся нам асілкам, а "большы" быў мо на якую галаву вышэйшым за нас, свайму "меншаму" брату бадай што па нос.

Жанчына зразумела наша здзіўленне, лагодна ўсміхнулася і пяшчотна сказала:

— Да-да, дзеткі. Міша — мой малодшы сынок. Ён у дзеда, майго бацьку, пайшоў. Вось і такі рослы. А Коля — старэйшы — у мяне выдаўся, таму і ростам меншы. Такая прырода.

Трэба сказаць, на вёсцы яшчэ і зараз часта старыя бацькі называюць старэйшых дзяцей большымі, малодшых-меншымі, не зважаючы на рост і камплекцыю.

У адносінах жа да Народаў у людзей пануе дзіцячае ўяўленне: вялікі (большы) — значыць старэйшы.

Сёння сярод славянскіх народаў Рускі самы большы (шматлікі). Вось і кажуць, — што ён старэйшы брат. На самай жа справе ён малодшы, як той Міша-бежанец.

Гістарычная радзіма многіх сучасных народаў Еўропы далёка не там, дзе цяпер яны жывуць.

Кожны з нас, хто вучыўся ў сярэдняй школе, ведае пра эпоху Вялікага Перасялення народаў. Дык вось напомню тым, хто паспеў забыць, што продкі Венграў да вялікага перасялення народаў жылі на тэрыторыі сучаснага Башкарстана (Башкірыі), Балгары — на Волзе. Нашы ж далёкія продкі — паміж Одэрам і Эльбай, на тэрыторыі сучаснай Германіі. Славяне засялялі і сучасную Калінінградскую вобласць (некалі Усходнюю Прусію).

Продкі сучасных немцаў выціснулі славян з іх спрадвечных земляў. Нашы продкі вымушаны былі рассяліцца на бясконцых абшарах лясоў і балот далёка на ўсход ад сваёй прарадзімы. Прайшло шмат стагоддзяў і яны моцна пусцілі карані на землях ад барагоў Нёмана да сярэдняга цячэння Дняпра, да рэчак Іпуці і Дзясны. Адбылося гэта яшчэ задоўга да ўтварэння так званай Свяшчэннай Рымскай імперыі (напомню — гэта не старажытны Рым, а Германская імперыя) і яшчэ да таго, як Варагі пачалі свой вялікі гандлёвы рух у Грэкі.

Праходзячы праз асвоеную нашымі продкамі тэрыторыю, шмат Варагаў засталіся тут назаўсёды, змяшаліся са славянамі, асіміляваліся з імі, прынялі іх мову і культуру, бо на той час яна была намнога вышэй за варажскую.

Нашы далёкія продкі жылі маленькімі княствамі, нярэдка варагавалі між сабой, працягвалі асвойваць землі далей на поўдзень і ўсход. І там, і тут яны сутыкнуліся з варожымі неславянскімі народамі і сталі цярпець ад іх урон. Жыццё прымусіла паўднёвую частку славян аб'яднацца ў моцную групоўку дробных княстваў для сумеснага адпору стэпавым качэўнікам. Гэтая моцная групоўка і стала магутнай дзяржавай —Кіеўскай Руссю. У тыя час Масквы яшчэ і на свеце не было.

Рух славян, між тым, працягваўся на ўсход і дасягнуў берагоў Волгі, а на поўначы — Белага мора. Нарэшце з'явілася на зямлі Масква, яна хутка расла, прыгажэла і ўмацоўвалася.

Але з усходу прышла на славян навала — орды мангола-татараў. Спусташальныя паходы Чынгісхана, затым Батыя надоўга затрымалі развіццё прыгнечаных народаў. Цяжкім аказаўся лёс славян. Нашчадкі тых, што прыйшлі ад берагоў Эльбы і Одэра і рассяліліся на тэрыторыях сучаснай Літвы і Беларусі, ўтварылі Вялікае Княства Літоўскае з дзяржаўнай беларускай мовай.

Самай апошняй утварылася ўсходняя Русь на чале з Масквой. Гэтых славян назвалі маскалямі.

Далей гісторыя трох славянскіх народаў-братоў складвалася па-рознаму. Нас цяпер называюць Беларусамі, паўднёвых — Украінцамі, а ўсходніх —Рускімі.

Самы меншы з народаў-братоў па сучаснай тэрыторыі і насельніцтву — Беларускі. Але ж са сказанага вышэй зразумела, што менавіта ён — старэйшы. Сярэдні брат — украінскі Народ. Рускі ж народ — наш малодшы брат, хоць па тэрыторыі і насельніцтву ён — самы вялікі.

У добрай сям'і ўсе слухаюцца старэйшага, а не большага па росту, брата. У нас жа надвор'е хоча рабіць малодшы брат. Наш Рускі брат. Упарты брат.

Слава Богу, ініцыятар новай братэрскай інтэграцыі славян Аляксандр Лукашэнка сумеў-такі распазнаць сапраўдныя памкненні магутнага малодшага брата афіцыйна, як след гучна, заявіў, што Беларусь ніколі не будзе губерняй Расіі. Яна застанецца незалежнай дзяржавай у супольніцтве з Расіяй і ў любым іншым супольніцтве. Рады чуць такое. Гэта абнадзейвае, што наша нацыянальная годнасць і гонар не будуць прыніжаны. Так трымаць, Аляксандр Рыгоравіч!

Не лішне нагадаць, што браты павінны моцна сябраваць, без карысці дапамагаць адзін другому, быць гатовымі ў любы момант і пры любых абставінах абараніць чэсць і годнасць, гаспадарку і маёмасць брата, як сваю ўласную, але весці гаспадарку сваю кожны павінен самастойна і так, як сам лічыць патрэбным. Параіць — можна, але — не ўказваць. Гэта святы закон. Жыць трэба кожнаму брату ў сваёй хаце і не ўмешвацца ў асабістае жыццё свайго брата, калі той не просіць. Інакш не пазбегнуць лаянкі і варожасці.

Брацкія дзяржавы — гэта тыя ж сем'і. Дзяды нашы яшчэ памятуюць: быў час, калі ў адной хаце жылі некалькі сем'яў родных братоў і сясцёр разам з бацькам. Вялі адну сумесную гаспадарку. І ладзілі. Усе слухаліся галаву сямейства — бацьку, без пярэчання выконвалі ягоныя ўказы. І дзеці, і зяці, і нявесткі, і ўнукі. Паміраў бацька — слухаліся старэйшага брата.

Але даўно гэта было. Зараз час не той. Зараз не ўжываецца доўга ў адной хаце нават жанаты сын ці замужняя дачка. Як толькі ажэняцца, яны імкнуцца, як мага хутчэй займець уласную хату, аддзяліцца ад бацькоў. І разумныя бацькі не супярэчаць. Наадварот — дапамагаюць дзецям займець жыллё і наладзіць сваю гаспадарку.

Паўтаруся: дзяржавы — гэта сем'і. Дадам. Свет — гэта вёска, у якой жывуць, як брацкія, так і чужыя сем'і. А ў Свеце (г. зн. на зямлі), як у вёсцы сем'і, жывуць і брацкія, і чужыя дзяржавы. Узаемаадносіны паміж дзяржавамі ў свеце, як паміж сем'ямі ў вёсцы, будуюцца на адзіных Божых Законах. Гэта трэба ведаць і добра зразумець усім дзяржаўным дзеячам на зямлі. Тады і справы пойдуць лепш.

Аляксандр Рыгоравіч, здаецца ўжо зразумеў, і не просіцца пасяліцца ў адной кватэры з Барысам Мікалаевічам.

Паўтаруся: свет на зямлі — гэта вёска. Дадам: сусвет (космас) — гэта гарады і вёскі на зямлі. Пры гэтым супергарады-галактыкі, вялікія гарады-сузор'і, сярэднія — планетныя сістэмы накшталт сонечнай, малыя —буйныя планеты са спадарожнікамі, вёскі — планеты сонечнай сістэмы, вёска ж Маркаўка на Магілёўшчыне —свет зямны. І ўвесь гэты сусвет жыве і развіваецца па адзінаму Закону Божаму. Нікому не дадзена змяніць развіццё сусвету супраць Волі Божай. Развіццё падзей у кожным кутку сусвету падуладна толькі Богу. Але прадухіліць развіццё той ці іншай падзеі ў дрэнным напрамку Сам Бог дапаможа таму, хто памкнецца зрабіць з добрым намерам, шчыра і бескарысна, у Імя Бога і свайго народа.

**В.ДАЎГАЛЁЎ.**

**СЁННЯ Ў НУМАРЫ:**



## НУ ЧАМУ НЕ ЖЫЦЬ?

Яшчэ і трох гадоў не прайшло, як стаў Прэзідэнтам Лукашэнка. А як палепшылася наша жыццё! Мне вось, простай даярцы, сталі плаціць пенсію 903 тысячы рублёў. Ды я зроду нават не зарабляла столькі грошай!

Кажуць, пры Брэжневе добра жылося. Брахня! Што мы бачылі пры ім? У нашым магазіне ў вёсцы можна было купіць разве што хлеб, соль ды запалкі. Ну, цукар яшчэ быў, кансервы розныя. А зараз? Круп грэчневых, якіх раней мы і ў вочы не бачылі — бяры, хоць пуза развяжы. Кавы растваримай і ў горадзе толькі па блату можна было зрэдку дастаць, а цяпер яе і ў вёсцы навалам. Бяры, колькі хочаш, лімонаў, апельсінаў і нават бананаў! Я раней і на смак іх не ведала. На прылаўку ляжыць рыба свежамарожаная, салёная, вяндленая. Карацей, бяры ўсяго, колькі душа жадае — абы грошы! Вунь па тэлеку паказваюць, што ў Расіі па некалькі месяцаў пенсію затрымліваюць, а наш Прэзідэнт пра нас клапоціцца лепш бацькі роднага. Пенсію дае без затрымкі. Мне ў лютым яе прынеслі нават раней тэрміну на дзень.

Ну чаму цяпер нам не жыць? І я проста не магу зразумець, адкуль бяруцца нягоднікі, што хаяць Аляксандра Рыгоравіча? Ён жа ўсёй душою за народ. Вунь колькі прайдзісветаў павыганяў з Урада, прыціснуў хвасты дэпутатам, якія толькі пра свае ільготы клапаціліся. Дай Бог яму добрага здароўя і доўгіх год жыцця. Я і ў наступны раз, калі будуць выбары Прэзідэнта, буду галасаваць за Лукашэнку.

**С.ХОМЧАНКА,**
**Клімавіцкі раён.**

## ЯК З КАЗЛА МАЛАКА

Многія дэпутаты былога Вярхоўнага Савета зараз беспрацоўныя. Па мойму, яны й не хочуць працаваць. Качаюць правы, каб ім плацілі "Дэпутацкія" да канца "паўнамоцтваў". А вомігі не хочаце?

Правільна зрабіў Прэзідэнт, што разагнаў вас. На што вы здольны? Стоячых дэпутатаў там была горстка, якіх 25-30 чалавек. Астатнія ж бадзяліся па Мінску, прапівалі народныя грошы. Нават на пасяджэнні з'яўляліся праз раз, галасаваць некаму іншы раз было. Гультаі-дармаеды.

Я б, на месцы Аляксандра Рыгоравіча, і цяперашні парламент разагнаў. З яго, як з казла малака. Бо хто ў ім? Усё тыя ж...

**Рыгор МЯТЛІЦКІ,**
**г. Горкі.**

# САМ САБЕ ВІНАРОБ

*В.А.ДАЎГАЛЁЎ*



## Уводзіны. Аб карысці віна

Віно — самы старажытны алкагольны напой. Напой бадзёрасці і здароўя. Ужо ў Бібліі раілася людзям ужываць віно.

Даўно даказана, што алкаголь спрыяльна ўздзейнічае на сардэчна-сасудзістую сістэму. Віно з'яўляецца цудоўным сродкам для прафілактыкі растройства страўніка-кішэчнага тракту. Адной шклянкі віна ў час яды дастаткова для таго, каб ужо праз гадзіну загінулі ўсе хваробатворныя бактэрыі, якія выклікаюць панос. Штодзённа выпіваемая *шклянка віна змяншае рызыку развіцця мочакаменнай* хваробы на 40% у мужчын і крыху менш у жанчын. Шклянка віна намнога хутчэй, чым гарэлкі ці каньяку, забівае самую небяспечную харчовую бактэрыю —сальманелу.

Выпіваючы бутэльку віна кожны дзень, вы значна адтэрміноўваеце час сваёй смерці, удвая скарачаеце верагоднасць сардэчна-сасудзістых захворванняў, істотна змяншаеце рызыку захварэць на ангіну і ракавыя хваробы. Умова пры тым адна — гэта павінна быць менавіта віно, а не гарэлка ці піва. Прычым пажадана, каб віно было чырвонае. Ісус Хрыстос у час тайнай вячэры гаварыў сваім вучням: "Піце віно, гэта кроў мая. Ешце хлеб, гэта цела маё".

Тым, хто зусі не п'е, не пазайздросціш. Ім няма чым ганарыцца. У іх рызыка дачаснай смерці намнога вышэйшая, чым у тых, хто штодзённа выпівае па бутэльцы віна.

Чырвонае віно з'яўляецца і добрым радыёпратэктарам, бо пектын, які ўтрымліваецца ў віне (асабліва з чорных і чырвоных парэчак і агрэсту) выводзіць з арганізму радыёнукліды.

Але, прачытаўшчы звесткі аб карысці віна не спяшайцеся напівацца, як "цуцікі". Піць трэба разумна з мінімальнай шкодай для здароўя і максімальным задавальненнем. Ведайце: у прыродзе няма нічога толькі карыснага і толькі шкоднага. Усё, шоо толькі ёсць на зямлі, адначасова і карысна, і шкодна. Уся справа ў колькасці, у дозе. Нават страшэнныя яды ў мікрадозах —лекі, а чуць перабольшыў —смяротныя.

Віно прыносіць карысць чалавеку, *калі той за суткі выпівае* 1 грам чыстага алкаголю, што ўтрымліваецца ў віне, на 1 кілаграм жывой вагі чалавека. У такім разе ў арганізме адбываецца самы лепшы абмен рэчываў. Калі ж перавысіць гэтую дозу, пачынаюцца збоі, парушэнні ў рабоце страўніка, сэрца, нырак, падстраўнікавай залозы і ў асабліва высокай ступені пакутуюць нервовыя клеткі. Так што піце, ды меру ведайце. А мера, я ужо сказаў, 1г/1кг. Гэта значыць, што пры вазе 70-75 кг вам карысна выпіваць за суткі бутэльку сухога (10-11% аб.) віна. Мацаванага віна некалькі менш - у залежнасці ад яго моцнасці. Падлічыць няцяжка, ведаючы сваю вагу і моцнасць віна.

Ведайце і другое: не кожнае віно, нават і чырвонае, аднолькава карыснае. Усё залежыць ад таго, з якой сыравіны яно зроблена і якая тэхналогія прыгатавання. 3 гнілых і чарвівых ягад ці пладоў добрага віна не атрымаеш, як не атрымаеш *і з добрай сыравіны, калі парушыш тэхналогію прыга*тавання віна. А як па вашаму, ці захоўваюцца ўсе гэтыя патрабаванні на дзяржаўных, тым больш калгасных ці саўгасных вінзаводах? Вядома ж — не! нездарма народ трапна ахрысціў гэтыя віны "чарніламі", "барматухай", "чарвіўкай" і іншымі эпітэтамі.

Высокаякаснае віно кожны з нас можа зрабіць у хатніх умовах. Робячы сам для сябе, ты не пакладзеш пад прэс гнілую ці чарвівую ягадку, разрэжаш кожны яблычак і выражаш чарвяточынку, нават маленькую, абрэжаш загніўшую частку і ўкінеш у сокавыціскалку толькі чысценькія добрыя кавалачкі. І посуд як след памыеш, у якім будзе брадзіць віно. Усё будзеш рабіць, як патрабуе тэхналогія — бо для сябе ж!

Вінаробства — справа складаная. Патрэбна шмат ведаў і умення, ня менш цярпення і вытрымкі. Нарэшце — гэта мастацтва. Патрэбен і вялікі вопыт. Я вось займаюся вінаробствам ужо чвэрць стагоддзя. Усе, хто трапляе ў наш дом, не выходзяць з яго не паспрабаваўшы нашага віна.

Зараз, калі на ўсё такая дарагавізна, калі добрага віна простаму чалавеку не дакупіцца, а піць віно трэба ўсім, я лічу сваім абавязкам падзяліцца з людзьмі сваім 25-гадовым вопытам вінаробства. Раскажу дбайным гаспадарам, як у хатніх умовах зрабіць добрае віно, каб піць на здароўе і не траціць вялікія грошы.

## Пладова-ягадныя віны

Знатакі і аматары віна вельмі цэняць хатняе віно з беларускіх пладоў і ягад. 3 упэўненасцю заяўляю, што лепшыя віны з парэчак і агрэсту (крыжоўніка), наогул з ураджаю нашых садоў і лясоў, не горшыя за паўднёвыя віны. А іншыя гатункі нават *пераўзыходзяць іх па смакавых і лекавых* якасцях.

У хатніх умовах можна прыгатаваць наступныя тыпы пладова-ягадных він: сухія (сталовыя), паўсалодкія, салодкія і моцныя — дэсертныя і араматызаваныя.

Сталовыя віны мы робім чырвонае, белае і ружовае з сумесі сокаў розных пладоў і ягад. Напоі з парэчак, агрэсту, суніц, каліны і вішань — непараўнальна цудоўныя. Прама эліксір жыцця! Штодзённа іх піць — век маладым быць. Бо ў іх захоўваюцца ўсе вітаміны і мінеральныя рэчывы, што і ў свежых соках, з якіх віны прыгатаваны. Ды ў дадатак яшчэ і 9-12 аб'ёмных працэнтаў чыстага алкаголю, які карысны для арганізму менавіта ў спалучэнні з гэтымі рэчывамі.

Моцныя пладова-ягадныя віны маюць без мацавання іх спіртам 16% аб. алкаголю. Можна зрабіць і віно з утрыманнем 17-19% алкаголю. Але тады спатрэбіцца дабавіць у яго спіртрэктыфікат ці звычайную 40-працэнтную гарэлку, для чаго *спатрэбіцца траціць грошы. Толькі навошта гэта?*

Моцныя віны маюць водар і смак тых пладоў і ягад, з якіх зроблены.

Салодкія пладова-ягадныя віны з параўнальна высокім утрыманнем цукру (10-20%). Такія віны больш спадабаюцца жанчынам. Мужчыны аддаюць перавагу кіслым і паўсалодкім вінам.

Мядовыя віны вельмі далікатныя, вельмі смачныя і карысныя, але калі ў вас няма сваіх пчол, то прыгатаваць іх каштуе вельмі дорага. Бо на 10 літраў віна спатрэбіцца дадаць літр мёду, прычым ліпавага ці грачышнага. Затое якое задавальненне паласавацца ім у *дзень нараджэння, на новы год, на* Вялікдзень ці ў любое свята.

Лепш за ўсё мядовыя віны рабіць з белых парэчак і зялёнага агрэсту.

## Тара і абсталяванне для вінаробства

Каб займацца вінаробствам, трэба спачатку абзавесціся матэрыяльнай базай — асноўнымі сродкамі. У першую чаргу пасадзіць сад —яблыні, грушы, слівы, вішні, кусты парэчак-агрэсту, плантацыю суніц ці клубнікі. У каго гэта ўжо ёсць — таму лягчэй. Прыступайце да набыцця абсталявання. Купіце (а лепш самі зрабіце) прэс для выціскання соку з ягад. Можна абысціся і без прэса, але тады соку атрымаеце менш і больш спатрэбіцца часу для яго атрымання. Спатрэбіцца нямала эмаліраваных каструль ёмістасцю ад 3 да 12 літраў, не менш як 3-4 эмаліраваныя бачкі па 25-30 л, 20-ці і 10-ці літровыя бутылі, або дубовыя двухдонныя бачонкі для зброджвання віннага сусла. Трэба мець драўляны палоўнік, 2-3 друшлякі з нержа*вейкі, пару эмаліраваных вёдзер, халсціну і марлю.*

У вінаробстве не дапускаецца прымяненне посуду з-пад соленай ці квашанай гародніны і садавіны, жалезнага, меднага ці алюмініевага.

Перш чым прыступіць да перапрацоўкі пладоў і ягад, спачатку трэба добранька прамыць увесь посуд халоднай вадой, потым гарачай з содай, потым спаласнуць летнай без соды.

Пры вырабе віна ад пачатку да канца трэба захоўваць абсалютную чысціню — гэта галоўнае патрабаванне вінаробчай тэхналогіі.

## Як прыгатаваць вінную закваску

Спецыяльных вінных дражджэй мала хто можа здабыць. Мы імі ні разу і не карысталіся. Мы робім вінную закваску самі. І віно атрымліваецца, што трэба.

Справа ў тым, што на паверхні ягад заўсёды маюцца дзікія дрожджы. Хлебнымі дрожджамі ніколі не карыстайцеся. Віно атрымліваецца несмачным і больш як 12% крэпасці ніколі не атрымаеце, бо хлебныя дрожджы пры такой канцэнтрацыі алкаголю ў сусле гінуць і браджэнне спыняецца.

Мы робім так. Як толькі паспяваюць белыя парэчкі, у сонечны дзень збіраем 500 грамаў ягад. Ягады не мыем, каб не змыць з іх паверхні дрожджы. У эмаліраванай каструльцы бярозавым чыстым таўкачыкам расціскаем гэтыя ягады і сталовай лыжкай з нержавейкі перакладваем мязгу ў двухлітровы шкляны слоік. У каструльку засыпаем 200-грамовую шклянку цукру-пяску. Затым наліваем поўную гэту шклянку вару, крыху астыўшага, каб не лопнула шклянка. Паўшклянкі выліваем у каструльку з цукрам і, памешваючы лыжкай, раствараем цукар. *Пры гэтым абмываецца з каструлі і частка* таго соку, што застаўся на яе донцы і сценках ад расціснутых ягад. Раствор цукру выліваем у слоік з ягаднай мязгой. Гэты раствор становіцца ўжо чуць летным. Цяпер астатнюю ваду выліваем у тую ж каструльку, бо на дне яшчэ застаецца частка нерастворанага цукру. Апаласкваем каструльку і выліваем ваду ў той жа слоік. Лыжкай добра перамешваем усё ў слоіку, наліваем яшчэ паўшклянкі вару, у трэці раз апаласкваем каструльку (і лыжку заадно), зноў выліваем ваду ў слоік. Уся маса ў слоіку цяпер становіцца летнай.

Завязваем гарлавіну слоіка марляй у складзенай чацьвёра і ставім слоік у цёмнае цёплае месца (тэмпература там павінна быць 22-24 градусы цяпла, але не ніжэй 18 і не вышэй 25).

Разы 2-3 за суткі гэтую закваску трэба добра перамешваць раскачваннем слоіка.

Праз два-тры дні пачынаецца бурнае браджэнне закваскі.

*На чацверты-пяты дзень лепш ужо выкарыстоўваць яе.* У халадзільніку яе можна яшчэ захоўваць некалькі дзён, але не больш 10 дзён ад пачатку прыгатавання.

Прыгатаванай закваскі дастаткова на 20-літровую бутыль віна. У далейшым закваску можна і не рабіць. Карыстацца у якасці дражджэй бродзячым віном ці віннымі асадкамі.

Для прыгатавання віннай закваскі прыгодны любыя ягады і плады.

## Сыравіна для вінаробства

На Беларусі добрай сыравінай для прыгатавання віна з'яўляюцца яблыкі, парэчкі, агрэст, арабіна чырвоная і чорная, ірга (пырус), вішня, слiва, маліна, суніцы, каліна, чарніцы ды журавіны.

Плады і ягады павінны быць спелымі *і не пашкоджанымі.* 3 пераспелых ягад віно дрэнна асвятляецца, а з недаспелых утрымлівае павышаную колькасць шкоднага для здароўя мецілавага спірту.

Яблыкі для вінаробства лепш выкарыстоўваць позніх гатункаў. *Сок выціскаць з крыху паляжалых* (дзён 5-7). Калі яблыкі паляжаць больш двух тыдняў, соку з іх бывае менш і ён дрэнна асвятляецца.

3 яблыкаў можна рабіць усе віды віна.

3 рабіны лясной нядрэнныя віны атрымліваюцца дэсертныя і лікёрныя, але яны гарчаць. Чорнаплодную арабіну з-за нізкай кіслотнасці трэба выкарыстоўваць з больш кіслым віном. Да соку іргі трэба дабаўляць сок з парэчак, каб атрымаць добрае дэсертнае віно.

3 вішні атрымліваюцца цудоўныя віны ўсіх відаў, яны вельмі добра асвятляюцца і хутчэй за ўсіх гатовыя да ўжывання.

3 чорных парэчак атрымліваюцца *найлепш лікёрныя віны*, але можна зрабіць і добрыя дэсертныя, паўсалодкія і сухія.

3 белых і чырвоных парэчак атрымліваюцца вельмі прыгожыя віны. Маліна дае прыгожыя лікёрныя віны з вельмі моцным водарам, яны хутка асвятляюцца і гатовыя для ўжывання ужо ў год прыгатавання.

3 журавін лепш за ўсё рабіць дэсертныя віны, а з суніц — лікёрныя.

## Выцісканне соку. Падбраджванне мязгі

Свежасабраныя ягады добра прамываем у эмалірованым бачку ці ў дубовай кадцы, адкідваем на друшляк і даем сцячы вадзе. Затым іх здрабняем драўляным таўкачыкам і змяшчаем у эмаліраваны ці дубовы бачок атрыманую мязгу. Выліваем сюды ж тую вінную закваску, што раней прыгатавалі, і варанай вады, астудтанай да 20-22 градусаў, з разліку паўлітра на кілаграм мязгі, растварыўшы ў гэтай вадзе 300 грамаў цукру. Трэба, каб у бачку аказалася масы *на дзве трэці яго аб'ёму, не болей.* Таму што пры браджэнні мязгі яе шапка "падыйдзе" амаль да накрыўкі.

Бачок з мязгой ставім у прыцэнены куток, дзе тэмпература 22-23 градусы цяпла. Ужо праз некалькі гадзін пачнецца браджэнне. Хай бродзіць 2-3 дні. Кожны дзень па 3-4 разы перамешвайце шапку мязгі, што уздымаецца, так, каб сок пакрываў яе. На трэці дзень браджэння мязгі выціскайце з яе сок. Спачатку працадзіце праз друшляк. Адцэдтаны сок цяпер ужо называць будзем сусла. Яго выліваем у шкляную бутлю, у якой і будзе далей брадзіць гэтае сусла, каб стаць віном. Выжымкі — мязгу кладзем пад прэс і насуха выціскаем з іх сок, які таксама зліваем у бутлю. Адпрасаваўшы сок, выжымкі ўзважваем. Ведаючы, колькі ягад мы сабралі, адняўшы ад таго вагу выжымкаў, мы даведаемся, колькі атрымана соку. Калі ягад у нас было, напрыклад, 10 кг, а выжымкаў аказалася 5 кг, значыць соку мы выціснулі 5 літраў. Значыць сок яшчэ не ўвесь здабыты. У такім разе мы зноў складваем выжымкі ў бачок і заліваем іх варам, цяпер ужо гарачым з разліку паўлітра на кілаграм выжымкаў. Добра ўсё перамешваем і астаўляем настойвацца гадзін на некалькі. І зноў адціскаем сок, які выліваем у бутлю. Зноў узважваем выжымкі. Калі іх застанецца з 10 кг ягад усяго 3 кг, значыць соку ужо не засталося ў выжымках. Цяпер іх можна выкінуць на градкі на ўгнаенне ці карове ў пойла.

Калі няма прэса, сок можна выціскаць у мяшку з рэдкай тканіны, закручваючы рукамі.

*3 яблыкаў сок выціскаем электрасокавыціскалкай.*

## Дабаўленне цукру і вады ў сусла. Браджэнне.

Цяпер мяркуем, якое віно будзе рыхтаваць. Вырашаем — дэсертнае, моцнасцю 16 градусаў. У нашым прыкладзе мы атрымалі 7 літраў соку (было 10 кг ягад, засталося 3 кг выжымкаў). Віно павінна ўтрымліваць 8-9 г кіслаты ў 1 літры. У сямі літрах соку белых парэчак утрымліваецца 161 г кіслаты (2,3). Значыць кіслаты хапае на 20 літраў віна. А каб атрымаць моцнасць віна 16%, трэба, каб сусла мела ў 1 літры 320 г цукру. Значыць усяго трэба, каб перабрадзіла насуха 6,4 кг цукру (320 г х 20 л = 6,4 кг).

У 7-мі літрах соку белых парэчак утрымліваецца 0,49 кг цукру (7%). Значыць трэба ўнесці ў сусла дадаткова 5,9 кг цукру. Мы ўжо ўнеслі 0,5 кг (200 г у закваску і 300 г у мязгу). Застаецца дадаць 5,4 кг. Колькі ж трэба даліць вады? Пры растварэнні цукру аб'ём сусла павялічыцца на 3,5 л (кг цукру пры растварэнні павялічвае аб'ём вадкаці на 0,6 л). Лічым далей. Соку выціснута 7 л, цукар дасць 3,5 л. Першы раз мы ў мязгу далівалі вады 5 л, другі 2,5 л, ды ў закваску ўлівалі паўтары шклянкі —гэта 0,3 л. Усяго ўжо даліта 7,8 л. Застаецца даліць 1,7 л.

Цяпер нам вядома, што трэба ў сусла дабавіць 5,4 кг цукру і 1,7 л вады. Але цукар уносім не адразу. Мы прыгатуем 1,7 л вару ў эмаліраванай каструльцы, усыплем у яго 3,4 кг цукру *і растворым. Атрыманы сіроп зальем у наша* сусла і паставім яго брадзіць пад вадзяным замком у прыцененым кутку. Вадзяны замок робіцца так: адзін канец гумавага шланга абматваем ватай (робім пробку, праз якую праходзіць шланг) (і затыкаем горла бутылкі. Вату абмазваем мяккай замазкай ці пластылінам, герметызуем пробку. Бярэм другі канец шланга ў рот і пачынаем дзьмуць. Калі паветра нідзе не праходзіць — апускаем свабодны канец шланга ў ваду, налітую ў паўлітровы слоік ці ў бутэльку. Праз некалькі гадзін пачнецца бурнае браджэнне і ў вадзе будуць булькаць паветраныя пузыры, а над суслам у бутылі амаль да пробкі ўздымецца пена. Здараецца, нават папрэ праз шланг ў ваду.

Праз тры дні браджэнне крыху паслабее. Адкрываем пробку, праз другі шланг засасваем і адліваем у каструльку крыху сусла, засыпаем у яго 800 г цукру, размешваем да поўнага яго растварэння і заліваем сіроп ў бутыль. Зноў ставім брадзіць пад вадзяным замком. Яшчэ праз тры дні такім жа чынам дадаем 600 г цукру, а праз наступныя тры дні — зноў 600 г. Пасля гэтага канчаткова закаркоўваем вадзяны замок і гэтая бутыль цяпер хай стаіць да заканчэння браджэння. Але ваду ў бутэльцы ці слоіку, дзе "булькае", трэба *праз кожныя 3-4 дні мяняць.* Інакш яна пратухне і віно будзе мець непрыемны водар і гаркавы смак.

Бурнае браджэнне працягваецца дзён 15-20, затым тыдні 3-4 працягваецца ціхае браджэнне. Заканчэнне браджэння вызначаецца адсутнасцю цукру ў вінаматэрыяле на смак, а таксама яго асвятленнем. На дне ж бутылі ўтвараецца асадак. Гэта астаткі мязгі і дрожджы.

## Зліццё віна з асадку. Бутыліраванне

Цяпер трэба асцярожна аддзяліць вінаматэрыял (гэта яшчэ не віно) ад асадку, пераліўшы праз гумавы шланг у другую

чыстую бутыль. Гэта робіцца так. Бутыль з вінаматэрыялам ставіца на стол, у бутыль апускаюць шланг, каб ён не даходіў да асадкаў на 3 см. Другі канец трубкі бярэцца ў рот і вадкасць засасваецца ў яе. Калі вінаматэрыял пацячэ, гэты канец трубкі апускаецца ў другую бутыль, што стаіць на падлозе. Пры дапамозе гэтага сіфона вінаматэрыя пераліваецца ў ніжнюю бутыль, а ў верхняй застаецца асадак. Гэты асадак пераліваюць у малую бутыль, закрываюць пробкай і ставяць на адстойванне. Праз дзень-два тут яшчэ адстаіцца пэўная колькасць вінаматэрыялу. Яго такім жа чынам пераліваюць.

Атрыманым вінаматэрыялам трэба запаўняць чыстыя бутылі па горлышка, герметычна закрываць пробкамі і ставіць у прахладнае месца (у склеп лепш за ўсё) на далейшае адстойванне. Праз месяц-паўтара будзеце мець ужо празрыстае маладое віно. Цяпер зноў, ужо віно, зліваюць з асадка. Толькі і зараз яно яшчэ не гатова для ўжывання. Для прыдання віну паўнаты смаку, мяккасці, у яго трэба дадаць цукар.

Паколькі мы вырашылі рабіць дэсертнае віно, усыплем па 100-160 г на літр. А калі б хацелі зрабіць лікёрнае — дадалі б па 200 г цукру на літр віна. Ну а для паўсалодкага — 50 г на літр. Цукар уносяць у выглядзе сіропу, растворанага ў невялікай колькасці падагрэтага віна.

Гатовае віно яшчэ раз адфільтруйце і разліце па бутэльках, як кажуць — бутыліруйце. Наліваць бутэлькі трэба да палавіны горлышка, надзейна закаркоўваць пробкамі і ставіць на даспяванне ў склеп.

Віны з розных культур набываюць свой характарны букет праз розныя тэрміны. Віны з парэчак, маліны, вішні гатовы для ўжывання ўжо праз 2-3 месяцы вытрымкі. З агрэсту і суніц — толькі праз паўгода. А з арабіны — праз год.

Марачным віно лічыцца толькі праз два гады даспявання і больш. Толькі мала ў каго хопіць цярпення столькі чакаць.

Захоўваць віны трэба пры тэмпературы +15 градусаў і ніжэй, што магчыма ў склепе ніжэй узроўню паверхні зямлі.

Цяпер чытачу вядома тэхналогія прыгатавання дэсертнага віна і разлікаў дабавак вады і цукру для атрымання віна жадаемай моцнасці. Але не вышэй 16%. Чаму? Ды таму, што дрожджы няздольны на большае. Передазіроўка цукру можа прывесці да таго, што браджэнне спыніцца дачасна і нават 16%-й моцнасці не атрымаеш.

Калі пасля спынення браджэння ў вінаматэрыяла адчуваецца на смак цукар — значыць ён не перабрадзіў "насуха", моцнасць будзе ніжэй запланаванай.

Калі ўсё нармальна, віно павінна абавязкова быць кіслым. Жадаемую салодкасць яму надаюць дабаўленнем цукру ўжо ў гатовае, асветленае віно.

# Каб менш рабіць разлікаў

Сок кожнага віду пладоў і ягад утрымлівае розную колькасць кіслот і цукру. Апісанне разлікаў дабавак вады і цукру ў сок кожнага віду садавіны зойме шмат месца. Таму прыводжу табліцу, з якой бачна, колькі соку ў сярэднім можна атрымаць з 1 кг сыравіны і колькі ў 1 літры соку ёсць (у %) цукру і кіслаты.

ТАБЛІЦА 1

**Выхад соку з пладоў і ягад і ўтрыманне ў ім цукру і кіслаты**

| Плады і ягады | выхад соку з цукру 1 кг | утрыманне у соку (у %) | |
|---|---|---|---|
| | | кіслаты | цукру |
| Вішня | 650 | 1,6 | 8 |
| Яблыкі культурныя | 650 | 0,8 | 8 |
| -"- дзічкі | 500 | 1,5 | да 8 |
| Ігрушы дзікія | 500 | 1,2 | 8 |
| Суніцы | 650 | 1,3 | 6,5 |
| Ірга (пырус) | 650 | 0,5 | да 10 |
| Каліна | 500 | 2,3 | 8 |
| Журавіны | 720 | 3,1 | 3,5 |
| Агрэст | 680 | 1,6 | 7,2 |
| Маліна | 600 | 1,4 | 6 |
| Парэчкі белыя і чырвоныя | 700 | 2,3 | 7 |
| Парэчкі чорныя | 630 | 2,6 | 6 |
| Чарніцы | 700 | 1,1 | 5,5 |

А для тых, хто сам не вельмі любіць рабіць разлікі і хоча с'эканоміць час, прыводжу шэраг табліц, дзе шмат падлікаў ужо зроблена.

ТАБЛІЦА 2

**Колькасць цукру (у грамах) і вады (у літрах), што трэба дадаваць у 1 л чыстага соку для атрымання дэсертных він**

| Культура | трэба дадаць вады л | трэба дадаць цукру г | у тым ліку | | | | чакаемая моцнасць віна % |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | першапачаткова | на 4 дзён | на 7 дзн. | на 10 дзен | |
| Яблыкі культурн. | — | 232 | 132 | 40 | 40 | 20 | 15,6 |
| -"- дзікія | 0,34 | 350 | 230 | 40 | 40 | 40 | 15,8 |
| Вішня | 0,72 | 460 | 300 | 60 | 50 | 50 | 16 |
| Суніцы, клубніцы | 0,33 | 364 | 240 | 44 | 40 | 40 | 16 |
| Маліна | 0,71 | 480 | 320 | 60 | 150 | 50 | 16 |
| Парэчка белая і чырвоная | 1,2 | 640 | 490 | 50 | 50 | 50 | 16 |
| парэчкі чорныя | 1,8 | 840 | 580 | 90 | 90 | 80 | 16 |
| Арабіна чырвон. | 0,88 | 550 | 380 | 70 | 50 | 50 | 16 |
| -"- чорная | 0,25 | 310 | 200 | 40 | 40 | 30 | 16 |
| Агрэст | 0,78 | 555 | 300 | 100 | 90 | 65 | 16 |
| Чарніцы | 0,12 | 353 2 | 13 | 80 | 80 | 80 | 16 |
| Журавіны | 1,65 | 843 | 500 | 143 | 110 | 90 | 16 |
| Слівы | 0,21 | 340 | 200 | 50 | 50 | 40 | 16 |
| Жавіны | 0,72 | 534 | 300 | 84 | 80 | 70 | 16 |

Ваду трэба браць гатаваную, астужаную да 22-24 градусаў.

# Асаблівасці прыгатавання паўсалодкіх він

У адрозненне ад дэсертных, паўсалодкія віны утрымліваюць менш спірту, цукру і экстрактыўных рэчываў. Гэта лёгкі прыемны напой. Плады і ягады з грубым смакам і вельмі кіслыя для яго прыгатавання непрыгодныя. Тэхналогія ж аналагічная з апісанай для дэсертных вінаў. Толькі дозы вады і цукру іншыя. Для вырабу паўсалодкіх він карыстайцеся табліцай 3.

ТАБЛІЦА 3

**Колькасць цукру (г) і вады (л) для дабаўкі ў 1 лі чыстага соку для атрымання паўсалодкіх він.**

| Культура | трэба дадаць вады л | трэба дадаць цукру г | у тым ліку | | | чакаемая моцнасць віна % |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | першапачаткова г | на 4 дзён г | на 7 дзн. г | |
| Яблыкі культ. | — | 180 | 100 | 40 | 40 | 12 |
| Агрэст | 1,3 | 555 | 300 | 155 | 100 | 1613 |
| Маліна | 0,9 | 0,9555 | 224 | 100 | 100 | 13 |
| Белыя парэчка | 1,5 | 620 | 400 | 110 | 110 | 13 |
| чырвон. парэчка | 1.75 | 11150 | 400 | 125 | 125 | 12- |
| суніцы; клубн. | 0,66 | 354 | 200 | 100 | 54 | 12 |
| Вішня | 0,78 | 380 | 280 | 50 | 50 | 13 |

Паўсалодкае віно ўтрымлівае мала спірту, таму лёгка можа ў бутэльках забрадзіць. Пагэтаму пасля бутыліравання яго трэба ў бутэльках пастэрызаваць на працягу 30 хвілін пры тэмпературы 75 градусаў. Затым надзейна закаркаваць і паставіць на захоўванне. Можна захоўваць і без пастэрызацыі, але ў такім разе цукар у віно не дадаецца. Яго дадаюць непасрэдна перад ужываннем. Прыкладна паўшклянкі цукру на 1 літр віна. А лепш для гэтай мэты мець сіроп.

Яго трэба рыхтаваць загадзя. У 1 літры соку раствараюць 800 г цукру, разліваюць у маленькія бутэлечкі (па 0,26 л), пастэрызуюць 15 хвілін пры 75 градусах і закаркоўваюць.

Цукровы сіроп можна рыхтаваць і на вадзе, але лепш за ўсё на тым жа віне, якое мяркуецца ўжываць паўсалодкім.

Сіропу падліваем у віно кожнаму пітку на яго смак. У сярэднім трэба недзе з паўшклянкі на 1 л віна.

Вельмі смачнае віно атрымліваецца, калі ў яго дадаць на 1 л 50-100 г ліпавага ці кветкавага мёду непасрэдна перад ужываннем. Асабліва прыемным становіцца смак яблычнага і агрэставага віна.

Паўсалодкае віно лепш захоўваецца ў склепе пры тэмпературы ніжэй 15 градусаў.

# Сухое віно

Сталовае сухое віно мае моцнасць 9-12 градусаў, зусім не ўтрымлівае цукру. Сухое віно мае лёгкі сартавы водар, мяккі, гарманічны смак з прыемнай кіслінкай. Таму плады і ягады з моцным і рэзкім водарам для гэтага тыпу віна непрыгодныя. Напрыклад, з маліны атрымліваецца цудоўнае моцнае віно, а для сухога віна маліна не гадзіцца.

Лепшай сыравінай для сухіх вінаў з'яўляюцца яблыкі, вішні, белая і чырвоная парэчкі і асабліва жоўты і зялёны агрэст.

Добрае сухое віно атрымліваецца, калі змяшаць сокі чырвонай і чорнай парэчак папалам.

Працэсы здрабнення пладоў і ягад і выціскання соку з іх з'яўляюцца такімі ж, як і для дэсертных він. А вось падрыхтоўку мязгі для выціскання трэба рабіць інакш. Яе не падбраджваюць, а падаграваюць да 60-80 градусаў. І прама з гарачай выціскаюць сок. З закваскі ж сок выціскаецца асобна, у мязгу яе не ўліваюць, бо пры высокай тэмпературы загінуць дрожджы. Сок закваскі выліваюць у сок з мязгі пасля таго, як ён астыне да тэмпературы 22 градусы. Вельмі важна, каб вінная закваска была пры гэтым у стадыі бурнага браджэння.

Нельга моцна зніжаць кіслотнасць у сухім віне, таму што слабаградусныя віны пры нізкай кіслотнасці маюць слабае браджэнне і лёгка псуюцца.

Колькасць вады і цукру, задаваемага ў 1 л соку, прыведзена ў табліцы 4.

ТАБЛІЦА 4

**Колькасць вады і цукру, якія трэба дадаць у 1 л соку для атрымання сухога віна моцнасцю 9-12 градусаў.**

| Культура | вада, л | цукар, г |
|---|---|---|
| Яблыкі культурныя | — | 90 |
| -"- дзічкі | 0,28 | 200 |
| Агрэст | 1,6 | 420 |
| Парэчкі чырвон, і белыя | 2 | 520 |
| Вішня | 1,2 | 300 |

Сухое віно, як бачым, патрабуе больш вады, але менш цукру і клопатаў на яго вытворчасць.

Ягады ўжо адразу ж пасля збору здрабняюць і выціскаюць з іх сок. Мязгу падаграваюць, як і для паўсалодкага віна.

Сок, разбаўлены з вадой і цукрам, наліваюць у бутлі на 3/4 іх аб'ёму і дадаюць туды адразу ж 2% віннай закваскі і хлорыстага амонію па 0,3 г на 1 л сусла (для азотнага харчавання дрожджаў). Калі немагчыма купіць хлорыстага амонію, яго можна замяніць нашатырным спіртам (аміякам). Аміяку спатрэбіцца 1 мілілітр на 1 л сусла.

Тэмпература сусла пры браджэнні павінна быць 18-20 градусаў, бо пры больш высокай тэмпературы у ім будуць актыўна развівацца воцатныя бактэрыі.

Праз 5 дзён трэба даліць у бутыль віна такога ж гатунку, затым праз 2-3 дні, потым праз пару дзён —яшчэ, з такім разлікам, каб за 12-14 дзён бытуль была запоўнена да горлышка. Далей пачынаецца ціхае браджэнне, якое будзе працягвацца 1,5-2 месяцы. Да гэтага часу віно асветліцца і стане празрыстым. Цяпер яго трэба зняць з асадку (як і дэсертнае). Праз 20 дзён канчаткова здымаюць з асадка і бутыліруюць. У бутэлькі налівайце да паўгорлышка (2-4 см ад корка).

Захоўваюць сухое віно пры тэмпературы 10-15 градусаў.

# Купажныя віны

Іншы раз пладова-ягадныя віны атрымліваюцца больш прыгожымі, смачнейшымі і з лепшым водарам, калі іх змяшаць разам некалькі гатункаў. Гэта змешванне называецца купажыраваннем, а віны —купажнымі. Змешваць можна як сокі да браджэння, так і гатовыя вінаматэрыялы. Мы часцей за ўсё змешваем ужо гатовыя віны. Бывае, садзімся за святочны стол, і мая палавіна, жонка, здараецца, кажа:

— Давай аблагародзім яблычнае віно. І мы змешваем яблычнае з чорнапарэчкавым ці чорнаагрэставым. А яшчэ, пры жаданні, і араматызуем лыжкай мятнай настойкі. Атрымліваецца выдатнае чырвонае віно з водарам мяты. А калі да таго ж дадаць у бакал лыжку мёду, дык і язык, глядзі, у страўнік зацягне —да таго смачнае віно!

А каб мець на ўсялякі выпадак гатовае купажнае віно, робім яго літраў 10. Вось адзін з рэцэптаў:

Віно з белай парэчкі — 2 л, з чырвонай парэчкі — 2л, з чорнай парэчкі — 2 л і яблычнае — 4 л, цукру - 1 кг.

Цукар раствараем віном у эмаліраванай каструльцы, выліваем усе пералічаныя кампаненты ў бутыль, добра перамешваем узбоўтваннем, і ставім віно на асіміляцыю на 10 дзён. Затым бутыліруем. Чым больш стаіць, тым цудоўней букет віна.

Купажы можна вар'іраваць якія заўгодна, колькі ў каго хопіць фантазіі.

# Вермуты. Араматызаваныя віны

Вермут — гэта гатунковае ці купажнае дэсертнае віно, у якое дабаўлена араматычная настойка з лекавых траў. Самы лепшы вермут будзе тады, калі ў купаж замест цукру на 10 л уліць 1 л добрага ліпавага ці кветкавага мёду.

Настойку мы робім розную. Гэта, як кажуць, сакрэт фірмы. Прыводжу адзін з лепшых рэцэптаў.

Бярэм паўлітэрку звычайнай гарэлкі. Лепш, канешне, узяць добрую "Сталічную" ці "Белую Русь". На аптэчных вагах узважваем кампаненты: 6 г тысячалісніку, 5 г мяты, 2 г зверабою, 5 г палыну горкага, 2 г рамонка духмянага, 3 г чабору, 4 г апельсінавых корак, 4 г карнявішча явару (аеру), 2 г мускатнага арэху, 5 г карыцы, 4 г кардамону, 2 г шафрану. Большасць гэтых кампанентаў нарыхтоўваем на лузе каля сваёй хаты, купляем толькі мускатны арэх, карыцу, кардамон ды шафран. Калі няма карыцы, яе можна замяніць карнявішчам явару ў такой жа дозе.

Усе кампаненты для настойкі здрабняем, засыпаем у 0,7 л бутэльку і заліваем паўлітрам гарэлкі. Бутэльку закаркоўваем, добранька ўзбоўтваем яе змесціва і ставім у шафу для настойвання. Цэлы тыдзень штодзённа ўзбоўтваем 2-3 разы гэту сумесь. Потым ужо хай стаіць спакойна. Праз 10 дзён настойка "вермут" гатова.

Заліваем у 10-літровую бутыль купажнага ці сартавога віна адну чайную лыжку гэтай настойкі і ўзбоўтваем. Пасля гэтага ставім на вытрымку. Праз 10 дзён вермут "Маркаўскі" гатовы. Можна піць на здароўе.

Прыгатаванай на паўлітрай гарэлкі настойкі хапае гады на 2-3...

Слова "Вермут" у перакладзе з нямецкай мовы азначае "Палын". У настойцы абавязковы кампанент.

Вермутную настойкую кожны можа прыдумаць сваю, фірменную. Мы сваю "Маркаўскую" не запатэнтавалі, але рассакрэчваем гэтай публікацыяй. І не шкадуем. Хай добрыя людзі карыстаюцца нашай прастатой. А хто-небудзь, упэўнены, выкарыстае яе для ўласнага абагачэння —наладзіць прамысловую вытворчасць вермуту "Маркаўскі", даўшы яму іншае імя, а нам, магчыма, і дзякуй не скажа. Ну ды Бог з ім. Важна, што Бажэственны напой будуць людзі піць на здароўе. Нас за гэта Бог аддзякуе.

Мы апрабавалі ўжо шмат рэцэптаў купажных вінаў, вермутаў, ардзінарных вінаў і марачных. Але ў газеце ўсяго не апішаш. Трэба выпусціць асобную кніжку. Калі ад чытачоў паступіць шмат пісьмаў з просьбай такую кніжку надрукаваць — мы гэта і зробім, калі нам Бог веку працягне.



Адрас рэдакцыі: 213670, Магілёўская вобл., Хоцімскі р-н, в. Маркаўка, д. 35.

Тэлефоны ў Хоцімску: галоўнага рэдактара — 22-9-89, намесніка гал. рэдактара — 22-00-9.
Рэгістрацыйны нумар 141.
Падпісана ў друк 21. 03. 97 г. у 11 гадзін.

Заснавальнік — працоўны калектыў рэдакцыі.
"Беларускі Ўсход". На беларускай мове. Незалежная грамадска-палітычная, літаратурна-мастацкая і гаспадарча-камерцыйная газета.

Пункт гледжання аўтараў друкуемых матэрыялаў можа не супасць з пазіцыяй рэдакцыі

Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор, дакладнасць і даставернасць даных, асабістых імён, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі. Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Індэкс 64098

Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70. Тыраж 1000 экз. Кошт 2000 руб. Аб'ём 1 друк. аркуш. Заказ 1.